# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 49 (1241) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 9 СНЕЖНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*Мо ў тым і ўсе нашы краікі,*
*Уся памылка, можа, ў тым:*
*Мы часта марым аб вялікім,*
*Задавальняемся ж малым.*

*І тое, чым жывём употай,*
*Што ў сэрцы носім мы здавён,*
*Усё адкладваем на потым,*
*Усё чакаем лепшых дзён.*

*Дні ж лепшыя — адкрыйма вочы! —*
*Нясуцца міма. Нааўжды!*
*А мы бразгочам, мы бразгочам*
*Той драбязою праз гады!*

*Яе мы носім з важным лікам,*
*Над ёй карпеем*
*І — глядзім.*
*Малое стала нам вялікім,*
*Ну, а вялікае — малым.*

*Пасля спахопімся, ды позна:*
*Ужо рыбка выслізнула з рук!*
*Гадоў былых ніякай познай*
*Назад не вернеш, мілы друг!*

*Так па прывычцы губім сілу*
*Мы зноў на спраў маленькіх рой.*
*Ну, а вялікае?*
*Ў магілу,*
*Нясём з сабой, нясём з сабой!*

* * *

*Калі на голаў чарада няўдач*
*Тібе — адкуль? — пасыплецца,*
*як з рога,*
*Ну што ж, ну што ж — не горбі плеч,*
*не плач,*
*Хай пад нагамі зноў курыць дарога.*

*Яшчэ, напэўна, не прабіў твой час*
*І не знайшла зара твае аконца.*
*Нясі ў вачах далей агню запас*
*І ў сэрцы, — нерастрачанае сонца!*

*За небасхіл дарогу церабі,*
*Не саступай да зманлівых абочын.*
*Як кропля, толькі ў адну кропку бі —*
*Хай сцюжаў шал, хай ноч рагоча*
*ў вочы.*

*Ідзі хадою простаю ў вякі,*
*Ідзі, ідзі, і да цябе, няйначай,*
*Як уначы ад смельчака ваўкі,*
*Адступяць, адбягуць усе няўдачы.*

**Кастусь Цвірка**



*Дзяўчына з Магілёўшчыны ў народн ым строі (са збораў М. Раманюка).*

МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# УЛАДАЛЬНІК СЕЗАМА

З мастацтвазнаўцам **Міхаілам Фёдаравічам Раманюком** я быў знаёмы задоўга да маёй паездкі ў сталіцу Савецкай Беларусі, вядома, не асабіста, але па яго артыкулах у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, часопісах „Маладосць“, „Голас Радзімы“, „Літаратура і мастацтва“ і іншых. Мяне ўражлівала глыбіня і абсяг яго ведаў па беларускаму народнаму мастацтву, дакладнасць і яснасць выказванняў, тая ўлюбёнасць у „фарбы роднай зямлі“, што праменіць з кожнага напісанага ім радка. І ён уяўляўся мне ўмудроным дзесяцігоддзямі навуковых даследаванняў сівавалосым дзядулем. Калі ж аднойчы вечарам наша грамадка завітала ў майстэрню на паддашшы даўняй камяніцы ў старой частцы горада, Нямізе, мяне перш за ўсё захапіла маладосць і энергія яго, усяго трыццаціпяцігадовага навукоўца і педагога. Нейкую частку таямніцы сваёй незвычайнай жыццяздольнасці і працавітасці М. Ф. Раманюк раскрыў мне толькі праз некалькі дзён, перадаючы ўласнаручна напісаны свой біяграфічны нарыс, у ім я прачытаў:

„Нарадзіўся я на Палессі, у краі песень, легенд і паданняў, краі славутым на таленавітых народных майстроў, дзе па сённяшні дзень, рыхтуючы пасаг маладой, ткуць узорыстыя ручнікі-наміткі, хаты ў сярэдзіне ўпрыгожваюць сакавітымі ўзорамі натыкання і вышыўкі, кладуць на ложкі стагі пульхных маляўнічых падушак. Вёска завецца Кавалі, яна ў Брагінскім раёне Гомельскай вобласці. Маці, ураджоная Валасовіч Алеся Харытонаўна, і бацька, Раманюк Фёдар Еўстратавіч, былі сялянамі, жылі з гаспадаркі. Бацька любіў маляваць і сам вышываў сабе кашулі, мама з выключна галасістым голасам — спявала. Памятаецца мне палескае застолле. Колькі паэзіі, душэўнага пачуцця ў нашых песнях! Лірычныя, часцей жаласлівыя, яны заўжды прымушалі да мары, да ўспамінаў, да ўсведамлення сябе як асобы“.

Чаму якраз напісаў, а не расказаў? Проста таму, што ў яго не было часу расказаць пра сябе. Бо тады мы — публіцыст „Голасу Радзімы“, мая чароўная апякунка і нястомная ўладкавальніца маіх мінскіх сустрэч Валянціна Андрэеўна Трыгубовіч, добра мне вядомы з публікацый загадчык рэдакцыі беларускага слоўніка Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, кандыдат філалагічных навук Іван Уладзіміравіч Саламевіч, яго сябра па навуковай працы, імя і прозвішча якога, на вялікі мой жаль, не памятаю, ну і я — правялі цудоўны вечар на спавітым легендамі ў мінскім творчым асяроддзі „гарышчы“ Раманюка. І не дзівуюся гэтым легендам, бо „гарышча“ — гэта праўдзівы Сезам! Яго гаспадар прыняў нас надзвычай гасцінна, з адкрытым сэрцам, і адразу павёў па сваёй скарбніцы. Далёка за поўнач мы вандравалі па Палессі і Паазер'і, Гродзеншчыне і Магілёўшчыне, па сотнях каляровых і чорна-белых здымкаў ды яго ўласнаручных замалёвак з натуры знаёміліся з багаццем народных мастацкіх вырабаў: касцюмаў, дэкаратыўных тканін, будаўніцтва, разьбы, жывапісу, пляцення і г.д. А ўсё гэта М. Ф. Раманюк дабываў з безлічы скрынак, шуфляд і шуфлядак, строга, па-навуковаму, упарадкаваных і сістэматызаваных. Гэтыя ж здымкі і замалёўкі самі па сабе з'яўляюцца выдатнымі творамі мастацкай фатаграфіі і графікі. Мне проста не верылася, што ўсё яно плён працы аднаго гэтага шчупленькага і скромнага чалавека. А шлях яго да навукі, як потым я прачытаў, не быў лёгкі. Ён вырас сіратою. Бацька яго загінуў на фронце Вялікай Айчыннай вайны, у маці іх, маленстваў, было чацвёра. Пасля сямі класаў ён працаваў краўцом і адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні Мінскага тэхналагічнага тэхнікума. Адначасова паступіў у Тэатральна-мастацкі інстытут на мадэльерскае аддзяленне, адслужыў у войску, а затым: „Прыйшоўшы з войска, трапіў у

(Працяг на стар. 2)

# ПАД ЗАЛАТОЙ ВЕХАЙ

Зялёным вянком, або зялёнай вехай упрыгожваюць у нас, як вядома, кожную новую, толькі што завершаную пабудову. Гэта адвечная традыцыя. Адгэтуль і выводзіцца назва **„Залатая веха“**, прысвоеная конкурсу на новы або перабудаваны прыкладны гаспадарчы будынак для гадоўлі кароў, свіней або авечак. Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца многія ўстановы і прадпрыемствы, якія дзейнічаюць у вёсках, але вядучая роля ў гэтым каштоўным мерапрыемстве гаспадарчага характару прыпала **Ваяводскаму прадпрыемству сельскагаспадарчых капіталаўкладанняў** (ВЗІР). Намеснік дырэктара гэтага прадпрыемства інжынер **Рышард Сяргей** ужо шмат гадоў узначальвае грамадскую ваяводскую конкурсную камісію.

— У лістападзе гэтага года, — гаворыць ён, — мы ўжо пятнаццаты раз падвялі вынікі конкурсу „Залатая веха“ ў маштабах ваяводства.

— Што вы намагаецеся дасягнуць, арганізуючы гэты конкурс, якія яго мэты? — пытаю старшыню.

— Агульна магу сказаць, што асноўнай і нязменнай мэтай конкурсаў „Залатая веха“ з'яўляецца папулярызацыя канкрэтных прыкладаў добрага і недарагога інвентарскага будаўніцтва ў аднаасобных гаспадарках. Конкурсныя патрабаванні ў паасобныя гады вынікаюць аднак з актуальных гаспадарчых патрэб краіны і ваяводства. Для прыкладу, спачатку, калі мы толькі наладжвалі конкурс „Залатая веха“, намагаліся пераламаць у нашых сялян глыбока закаранелую прывычку, што жывёлу найлепш гадаваць у цесным хляве з высокім парогам, без вокан і вентыляцыі, што свінні спакойна могуць купацца па вушы ва ўласным гноі, а з-пад кароў і авечак гной хопіць выбраць два разы ў год: на весну пад бульбу і восенню пад азіміну. Цэлыя стагоддзі так гаспадарылі нашы мужыкі, і, шчыра кажучы, гэтая даўно ўстарэлая традыцыя, яшчэ не зусім звялася з нашых вёсак, асабліва ва ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства. Таму найперш патрабавалі мы ад удзельнікаў конкурсу, каб у сваіх аборах і хлеўнях абсталявалі водапаілкі, каб будынкі атрымалі добрае сонечнае і электрычнае асвятленне, каб мелі спраўную вентыляцыю паветра і былі дбайна забяспечаны ад холаду і спёкі. Адначасова патрабавалі мы, каб сяляне будавалі плыткія, праязныя аборы і хлеўні, у якіх можна было б прымяняць хаця самую простую механізацыю, аблягчаючую працу чалавека, каб за кожным разам не трэба было гною з хлява вырываць віламі, як дагэтуль даводзілася рабіць амаль усім гаспадарам на Беласточчыне.

У другім этапе конкурсу звярталі мы перш за ўсё ўвагу на тое, каб яшчэ болей палепшыць мікраклімат у жывёлагадоўчых будынках. Уваходзілі ў эксплуатацыю новыя праекты і трэба было праверыць іх прыдатнасць: а пры гэтым выкарыстаць розныя помыслы і рацыяналізатарскія прапановы вясковых умельцаў, асабліва ў забеспячэнні жывёлы ад холаду. Уводзілі мы тады двайныя сценкі з ізалятарамі між імі, устойлівыя на мароз столі і падлогі, драўляныя памосты замест саламянай падсцілкі і бетоннай падлогі. Звярталі мы адначасова ўвагу, каб гаспадарчаму будынку спадарожнічалі ўсе іншыя абсталяванні і збудаванні, як для прыкладу, сілас, склад кармоў, гнаёўня, рэзервуар для сцёкаў. Ацэньваўся ўзровень аблягчэння працы жывёлаводаў...

— Адным словам, з кожным годам вы павышалі патрабаванні і ўзнагароджвалі перш за ўсё тых сялян, хто ў сваіх будынках прымяняў найбольш смелыя дасягненні сучаснай навукі і тэхнікі будавання.

— Так, можна так абагульніць нашы мэты і патрабаванні. Толькі я асабліва хачу адзначыць, што ўдзел у конкурсе „Залатая веха“ прымаюць выключна **будынкі ўжо гатовыя і заселеныя,** якія кожны селянін можа асабіста наведаць і пераканацца ў іх прыдатнасці ў гаспадарцы.

— Якое зацікаўленне выклікаў апошні, 15 па чарзе конкурс „Залатая веха“?

— З кожным годам нарастае зацікаўленне конкурсам. Да конкурсу „Залатая веха-79“ прыступіла 1273 сялян,

(Працяг на стар. 4)

 

(Працяг са стар. 1)

# ПАД ЗАЛАТОЙ ВЕХАЙ

якія паставілі пад ацэнку 781 новы і 492 аднаўленыя, мадэрнізаваныя будынкі.

— Што прыцягвае сялян да гэтага конкурсу?

— Найменш, бадай, грашовая ўзнагарода, бо яна ў параўнанні з коштамі будынкаў з'яўляецца сумай толькі сімвалічнай. Здаецца, што найважнейшым і рашаючым фактарам з'яўляецца **маральнае задавальненне** з дасягнутай мэты, з пабудовы аборы, хлеўні ці аўчарні, якія каштуюць нярэдка і **звыш мільёна** злотых. Маўляў, глядзіце, суседзі, я не пабаяўся, набраў пазыкі і пабудаваўся. Паспрабуйце і вы! Дзяржава вам паможа. Калі добра пойдзе ў вас гадоўля, **дык даруе вам нават і 450 тысяч злотых з кожнага мільёна пазыкі.**

— Назавіце, калі ласка, сёлетніх пераможцаў.

— Гэта **Вальдэмар Геніюш** з вёскі **Геніюшы** ў Сакольскай гміне — уласнік новай сучаснай хлеўні. Затым суполка сялян: **Андрэй, Ян і Эдвард Юрчакі** з **Туросні Касцельнай,** якія ў адным будынку размясцілі хлеўню і брайлерню. Трэцім у нашым конкурсе камісія прызнала **Багуслава Астроўскага** з **Кнышына** за новы цялятнік на амаль 100 штук букатаў і за пабудаваную і механізаваную абору. Гэтыя тры гаспадарчыя аб'екты будуць прадстаўляць нашае ваяводства ў цэнтральных спаборніцтвах па конкурсу „Залатая веха". Апрача гэтага ўзнагародзілі мы яшчэ 12 кароўнікаў, 3 хлеўні і адну аўчарню. А ўзнагароды атрымалі таксама і найлепшыя рамеснікі, якія будавалі гэтыя будынкі.

Некаторых узнагароджаных сялян я ўжо наведаў, у іншых яшчэ пабываю, бо варта ведаць, як добра і спраўна будаваць, як па-сучаснаму весці жывёлагадоўлю.

**Віктар Рудчык**




*Так выглядае ўзнагароджаная ў конкурсе „Залатая веха" хлеўня Вальдэмара Геніюша з вёскі Геніюшы ў Сакольскай гміне.*

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ВАСІЛЬКОЎСКІЯ КОЗЫРЫ

Перш за ўсё да козыраў Васількоўскай гміны належаць 14 сялянскіх вытворчых калектываў і 43 спецыялістычныя гаспадаркі. Сярод калектываў сем займаецца гадоўляй курэй, чатыры — гадоўляй свіней і па адным — гадоўляй авечак ды вырошчваннем агародніны ды пячурыц. У групе спецыялістычных гаспадарак найбольш, 24 гаспадаркі, гадуюць малочных кароў, дзевяць гаспадарак гадуе свіней, адна гаспадарка гадуе авечак, яшчэ адна гадуе курэй ды пяць гаспадарак вырошчвае агародніну, у тым ліку таксама пад фальгой. На працягу двух апошніх гадоў гаспадары-спецыялісты пабудавалі тры аборы, шэсць хлеўняў, тры курнікі і сем цяпліц.

Сялянскія вытворчыя калектывы і спецыялістычныя гаспадаркі прадалі больш палавіны ўсіх прададзеных дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў. На суму 34 млн. злотых. Найлепшымі гаспадарамі ў гміне з'яўляюцца: Генрык Санчык з Дамброўкаў, Ян Арцішэўскі з Навадворцаў, Станіслаў Гаймовіч з Гараднянкі, Баляслаў Валюк з Юроўцаў, Вітольд Куліkоўскі з Асовічаў і іншыя.

35 маладых гаспадароў купіла 307 га з ПФЗ.

ГС арганізаваў толькі ў бягучым годзе пяць будаўнічых прадпрыемстваў, якія вельмі патрэбны.

У 1978-79 гадах водаправодная сетка ў мястэчку павялічылася на 2,5 км і ваду з крана падключылі ў 98 дамоў. Зараз падключаюць ваду ў дамы па вуліцы Крынічнай, А. Міцкевіча і Новай (гэты адрэзак водаправоднай сеткі мясцовыя жыхары пабудавалі ў грамадскім пачыне).

У апошнія два гады ў Васількове пабудавана 1,6 км тратуараў і 4,2 км брукаваных дарог.

Жыхары Васількоўскай гміны выканалі грамадскіх пачынаў на суму 3 584 тысячы злотых. Найбольш працавалі яны пры пабудове стадыёна і водапровода ў Васількове, пасадцы дрэў і дэкаратыўных кустарнікаў, рамонце дарог з Васількова ў Навадворцы і з Вулькі ў Варашылы.

На працягу леташняга і бягучага гадоў 33 жыхары Васількоўскай гміны закончылі пабудову дамоў.

### ТРАНСПАРТ НА ПЕРШЫ ПЛАН

Аддзел Спулдзельні вясковага транспарту (СТВ) у Гайнаўцы мае 57 самаходаў, у тым ліку чатыры халадзільныя грузавікі. Абслугоўвае ён малочнае прадпрыемства і будаўніча-мантажны аддзел — абодва ў Гайнаўцы, ГСы ў Белавежы, Гайнаўцы, Кляшчэлях, Нараўцы і Мілейчыцах.

— Восенню, — кажа дырэктар аддзела СТВ, Сцяпан Васілюк, — чатыры нашы самаходы вазілі збожжа з Гайнаўкі ў Бельск і Старасельцы. Усе самаходы з вялікімі скрынямі і трактары з прычэпамі вазілі бульбу і буракі.

Перавоз сельскагаспадарчых пладоў гэта толькі частка задач. Асноўнай задачай з'яўляецца забеспячэнне жыхароў вёсак усімі спажывецкімі прадуктамі і прыладамі да сельскагаспадарчай прадукцыі.

Выкананне плана перавозу з'яўляецца галоўнай заслугай шафёраў і добрай арганізацыі працы. Да надзейных шафёраў належаць: Ян Салаўянюк, Аляксей Герасюк, Аляксандр Ігнацюк, Лявон Пракапюк і Рыгор Мішчук.

**(ця)**





*Асенняя паводка.*
*Фота Я. Целушэцкага.*

### АБ КЛЯШЧЭЛЕЎСКІМ ХЛЕБЕ

Нехта можа падумаць, што бяру прыклад з Вайсковіча і карыстаюся тэмай, якая была выкарыстана ім раней (мой сябра пісаў аб гайнаўскай пякарні). Гэта было б несправядліва. У сваёй публікацыі закрану дзве справы, менавіта: якасць хлеба і булак кляшчэлеўскай пякарні і пастаўкі гэтага тавару ў чаромхаўскія крамы.

Калі гаварыць аб першай справе, можна пахваліць нашых пекараў. Пякуць добры, смачны хлеб, а булачныя вырабы з кляшчэлеўскай пякарні расплываюцца проста ў роце, ды іх заўсёды не хапае. Ці нельга павысіць нормы выпеку булак? Такое пытанне амаль кожны дзень чуецца ў чыгуначным цэнтры. Як нам на яго адкажа кіраўніцтва ГС у Кляшчэлях?

Другая справа больш дыскусійная. У чаромхаўскія крамы пастаўляецца хлеб заўсёды свежы і больш-менш рэгулярна. Найбольш яго атрымлівае дом продажу „Паўшэхны", менш іншыя пункты. І тут мой пастулат: трэба павысіць пастаўку хлеба і булачных вырабаў у чыгуначны буфет, у нядзелю таксама. Гэты пункт працуе кожны дзень ад 6 гадзіны да 21.30, таксама ў нядзелю. Найдаўжэй за ўсе крамы ў Чаромсе. Тут купляюць хлеб усе працаўнікі станцыі, жыхары ўсходняга боку пасёлка, жыхары Кузавы і падарожнікі. А ўвечары амаль заўсёды хлеба тут ужо не купіш. Толькі на порцыі, да бутэрбродаў. Аб нядзелях і не ўспамінаю. Нельга растлумачыць гэтага тым, што трэба купляць у „Паўшэхным". Гандаль ёсць гандлем і, калі ў буфеце купляюць хлеб, трэба яго туды даць. Мы чакаем, што ў буфеце на станцыі ў будучыні не толькі купім хлеб заўсёды, але і булачкі.

**Ул. Сідарук**

### БАЛАДА

*Шумі, дубе зелененькі,*
*дромны лісце на табе.*
*А мой мілы, мілюсенькі,*
*німа праўданькі ў табе;*
*ты ж бажыўся, прысягаўся:*
*— Цебе верне я люблю,*
*а як буду жаніціся,*
*то напэўна це вазьму.*
*Узяла яму паверыла —*
*стала верненька любіць,*
*а ліхіе людзі ўзналі,*
*сталі аб нас гаманіць.*
*Гаманілі, гаманілі*
*праз чатэры нідзелі,*
*а тут пята наступае —*
*ксёндз Ясюльку шлюб дае.*
*Пахавалі Яся ў землю,*
*у сыру землю глыбако —*
*цяжка міленькаму Ясю*
*ў гэтай зямельцы ляжаць,*
*а мне маладой дзеўчыне*
*цяжка гора гаравацЬ.*

## ФАЛЬКЛОР




Ад Казіміра Грынкевіча, 1903 г. нараджэння, мястэчка Новы Двор, запісаў 18 ліпеня 1979 г. Мікалай Гайдук. Мелодыю расшыфравала Людміла Панько.



# ЗАЎВАГІ ПРА „ГІСТОРЫЮ БЕЛАРУСІ" М. КОСМАНА

Нягледзячы на непасрэднае межаванне Польшчы з Беларуссю, знаёмасць яе гісторыі тут слабая. Грамадству Польшчы лепш вядомы такія далёкія краіны, як Грэцыя, Італія, Францыя і іншыя, чым суседняя. Таму добра зрабіла выдавецтва „Асалінэум", што выдала на польскай мове „Гісторыю Беларусі".

Аднак чытаючы гэтую працу, насоўваюцца некаторыя заўвагі і рэфлексіі.

Назву племя крывічоў, якое калісьці насяляла цэнтральную і паўночна-ўсходнюю тэрыторыю Беларусі, аўтар выводзіць са старажытнарускага слова „кривъ", што абазначала несумленнасць, крывадушнасць. Інакш гэта тлумачыць Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: „На думку некаторых даследчыкаў назва к/рывічы/ абазначае блізкія паходжаннем („па крыві"), на думку інш/ых/ вучоных паходзіць ад імя роданачальніка Крыва або ад язычаскага першасвяшчэнніка Крыва-Крывейтэ". Крывічам прыпісваецца роля ўтварэння ў VII-VIII стагоддзях племяннога саюза. „История БССР" (выдадзеная АН БССР у 1961 г.) пра яго піша: *„Имеются предположения, что он существовал еще во времена антов и тоже возник для отражения иноземной агрессии. Летопись сообщает, что кривичи жили по верховьям рек Западной Двины, Днепра и Волги. Возможно, что в состав союза кривичей входили и племена, населявшие часть междуречья Припяти и Западной Двины. Анализ данных топонимики и некоторые археологические материалы показывают, что в процесс образования племенного союза кривичей было вовлечено не только словянское, но и частично соседнее литовское население".* Навуцы трэба было б глыбей і шырэй усё гэта даследаваць. Гэта вельмі важна, бо азначае, што карэнні фармавання між Прыпяццю і Дзвіной адзінай народнасці, якая пачала пазней звацца беларускай, трэба шукаць ужо ў VII-VIII стагоддзях.

IX-XII стагоддзі. Час узнікнення гарадоў і княстваў на Беларусі. Як вядома, галоўнае месца сярод іх займаў Полацк. Летапіс Нестара („Повесть временных лет") успамінае пра яго ўжо пад 862 годам... З гэтага летапісу, а таксама зНіканаўскага, Іпацьеўскага і іншых рускіх летапісаў даведваемся пра падзеі на Беларусі, у княстве Полацкім. Пра яго князя Рагвалода і яго дачку Рагнеду, затым, у X і XI ст., пра сына Рагнеды і Уладзіміра — князя Ізяслава, ад якога выводзіўся на Беларусі род князёў Ізяславічаў: Брачыслаў, Усяслаў і яго нашчадкі, што княжылі ў Полацкай зямлі. Пра іх імкненні, змаганні, перамогі, паражэнні і нязгоды — гісторыя багатая і цікавая. М. Косман аб усім гэтым або не ўспамінае, або прыгадвае толькі мімаходам.

...Працэс фармавання Вялікага княства Літоўскага М. Косман называе заваяваннем рускіх зямель літоўцамі. Праўда, калісьці такое вельмі спрошчанае талкаванне панавала ў гісторыі, але пазней пахіснулася яно пад крытыкай сучасных гісторыкаў. Іх вывады падсумоўвае Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, пішучы: „Шляхі ўключэння асобных зямель (у Вялікае княства Літоўскае — В. Я.) розныя (дыпламатычныя, дагаворы, захопы, шлюбныя сувязі, добраахвотнае падпарадкаванне)". Беручы пад увагу ўсё вышэй сказанае, названне ўваходу беларускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага заваяваннем ёсць вельмі абагуленым, а можа нават неабгрунтаваным.

Не высветлена таксама дастаткова палітыка вялікіх князёў літоўскіх да паасобных зямель Вялікага княства Літоўскага. Чаму яны не намагаліся аб'ядначаць блізкія і сваяцкія літоўцам балцкія землі прусаў і латышоў, а дазволілі крыжацкаму ордэну заваяваць іх? Чаму аддавалі яму нават Жамойцію (паўночныя землі сённяшняй Літоўскай ССР) князі Міндоўг, Вітаўт? Чаму пасля разгрому крыжакаў пад Грунвальдам у 1410 г. Вітаўт не далучыў да

 

 

# НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў 1979|80 ГОДЗЕ

**(СТАТЫСТЫЧНАЯ ДАВЕДКА)**

Паводле даных Беластоцкай куратарыі асветы і выхавання, у бягучым 1979/80 школьным годзе беларускую мову вывучае 4265 вучняў пачатковых і сярэдніх школ, г.зн. на 4,1% менш у параўнанні з папярэднім годам. Варта заўважыць, што гэтае змяншэнне было больш памяркоўным, чым у 1978/79 школьным годзе.¹)

Колькасць навучэнцаў Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання крыху паменшылася, а Гайнаўскага — узрасла. У выніку, агульны лік ліцэістаў, якія вывучаюць беларускую мову, амаль не змяніўся і ў бягучым школьным годзе складае 699.

У 43 пачатковых школах Беласточчыны вывучае беларускую мову 3566 дзяцей, у тым ліку ў II класах — 520, III — 480, IV — 519, V — 490, VI — 506. VII — 555 і VIII — 496. У параўнанні з 1978/79 годам агульная іх колькасць паменшылася на 4,7%, прычым найбольшае змяншэнне выступіла ў школах Бельскай і Гайнаўскай гмін, у прыватнасці ў Храбалаўскай, Бельскай (зборнай гміннай), Новаберазоўскай і Навакорнінскай школах. Адначасова павялічылася колькасць вучняў Арлянскай, Боцькаўскай (Краснае Сяло) і Нараўкаўскай гмін.

Ніжэй прыводзяцца даныя, якія паказваюць абсяг навучання беларускай мовы ў паасобных гарадах і гмінах Беластоцкага ваяводства:

| | 1978/79 школ | 1978/79 вучняў | 1979/80 школ | 1979/80 вучняў |
|---|---|---|---|---|
| Ліцэі разам | 2 | 708 | 2 | 699 |
| Бельск | 1 | 453 | 1 | 434 |
| Гайнаўка | 1 | 255 | 1 | 265 |
| Пачатковыя школы | 46 | 3741 | 43 | 3566 |
| Бельск | 1 | 435 | 1 | 439 |
| Гайнаўка | 1 | 137 | 1 | 110 |
| гміны: | | | | |
| Арлянская | 4 | 376 | 3 | 389 |
| Белавежская | 1 | 12 | 1 | 4 |
| Бельская | 8 | 484 | 8 | 426 |
| Боцькаўская | 1 | 43 | 1 | 64 |
| Вышкаўская | 1 | 8 | 1 | 4 |
| Гайнаўская | 6 | 547 | 6 | 502 |
| Гарадоцкая | 1 | 51 | 1 | 41 |
| Дубіцкая | 3 | 234 | 3 | 222 |
| Заблудаўская | 1 | 74 | 1 | 72 |
| Кляшчэлеўская | 3 | 86 | 2 | 86 |
| Мілейчыцкая | 1 | 6 | 1 | 5 |
| Нараўкаўская | 4 | 353 | 4 | 359 |
| Нараўская | 6 | 337 | 6 | 321 |
| Нурэцкая | 1 | 26 | — | — |
| Чыжоўская | 3 | 532 | 3 | 522 |

¹) гл. „Ніва“ № 48, 26 лістапада 1978 г.

(тур)

# АБЫ ДАЛЕЙ, АБЫ-ЯК

Ужо 15, а мо і больш гадоў, як будавалі шашу праз Бабікі ў Шудзялаўскай гміне. Пасярэдзіне вёскі палажылі брук ніжэй, так што заўсёды пасля дажджу, ці ўвосень і зімасходам стаіць тут вада з граззю. І якраз там, дзе найбольш гразі, знаходзіцца прыпынак ПКС, пошта і бібліятэка. Калі людзі пачалі дарожным уладам крычаць „гевалт“, то ўлады зрабілі раўчак і ваду адвялі ў канец вёскі, паміж крамай і малачарняй. І так ужо было добра. Але ж вёска Бабікі слаўная, чуць не горад. Бо чаго ж у ёй няма! Ёсць школа, крама, кіёск, пошта, бібліятэка, асяродак аховы здароўя, лекар ветэрынарыі, ГС з усялякімі ўстановамі, пункт скупкі жывёлы, спулдзельчая каса, ды іншыя, усяго не ўспомніш.

Ну, што ж рабіць? Падумалі дарожныя ўлады, што брыдка, каб у такой вёсцы не было краевугольнікаў паабапал бруку. Як падумалі, так і зрабілі. Засыпалі раўчак, паклалі краевугольнікі і, задаволеныя, паехалі пры пагодзе. А калі насталі дажджы, людзі пачалі ізноў гвалтаваць, бо вада стаіць роўна з берагамі краевугольнікаў, розныя машыны, трактары, аўтобусы часта тут праязджаюць, ды людзей і школьнікаў абліваюць граззю, а тут і ўцячы няма куды, бо агароджа стаіць амаль пры самых краевугольніках. Найгоршую бяду мае пошта, бо каля яе якраз прыпынак ПКС. І ўсе людзі, чакаючы аўтобуса, які больш як 20 разоў у суткі тут праязджае, пруцца на пошту, як у пачакальню, і наносяць туды шмат гразі. На людскія скаргі дарожныя ўлады прыехалі, пахадзілі і нічога не зрабілі. Пагумкалі, павохкалі і ў Саколку патрохалі. Так ужо больш пяці гадоў вада з граззю стаіць, пакуль часам слонка не змілуецца і не высушыць, або самаходы на калёсах не вывазяць. Не верыце? То прыедзьце, пабачыце. Толькі не ў туфельках.

**ЭШ**




# АБ САБЕ І АБ СЯБРАХ

*Як відаць, ў нядобры час*
*Ў крытыку ўвязаўся Квас.*
*Выніклі з яго зацеі*
*Нежаданыя падзеі.*
*Заўзялось гарача дзела,*
*Забурліла, закіпела,*
*На баках закатлавала,*
*Палымянна спрэчка стала —*
*Аб паэзіі напрамках,*
*Аб наватарах у рамках.*
*Нарабіў Квас амбарасу,*
*Ну й ўляцела, браткі, Квасу.*
*Будзе памятаць да скону,*
*Як быў біты без пардону.*
*Спазнаў ён, пачом пуд ліха,*
*Рашыў „Дзядзя“ сядзець ціха,*
*Сам сабою стаў не рад.*
*Скіс. Упаў у занапад.*
*Меланхоліі паддаўся.*
*Здурнеў. З „Ніваю“ прашчаўся.*
*Яго верш „апошні“ ўраз*
*Учыніў зноў амбарас.*
*Добрыя сябры знайшліся.*
*І да Кваса заўзяліся.*
*Пажурылі, разважалі,*
*Як адзін — адно сказалі:*
*— Не бываць такому дзіву,*
*Каб Квас раптам кінуў „Ніву“ —*
*Жыўшы ёю з даўніх год,*
*Сябра наш і патрыёт!*
*„Нівы“ сорак шосты нумар*
*Дух падняў мой, вярнуў гумар.*
*Прачытаўшы шчыра з рання,*
*Сябры, вашае прызнанне,*
*Мне цяжар з душы зваліўся,*
*Ажыў духам, адрадзіўся,*
*Зразумеў жыцця сакрэт:*
*Грунт — здабыць аўтарытэт*
*Ў людзе, заслужыць давер,*
*То, браток, хоч вер — не вер —*
*Той ніколі і нідзе*
*Чалавек не прападзе.*
*Бо галоўным ёсць на свеце*
*Позаўсёды сяброў мецці.*
*Богу дзякуй, я іх маю!*
*Ім з падзякай абяцаю*
*Пісаць ў „Ніву“ нумар ў нумар*
*Вершы, артыкулы, гумар,*
*З тыдня ў тыдзень, з году ў год.*
*„Ніва“ хай жыве й народ!*
*Хай гучыць шчасліва ў нас*
*Родна мова...*

**Дзядзька Квас.**





БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79

*Хор з Варшавы.*
*Фота Я. Целушэцкага.*

# Заслужаны чыгуначнік ГДР

У рамах міжнароднай суседскай камунікацыі польская дзяржаўная чыгунка супрацоўнічае з чыгункамі СССР і ГДР.

Ужо стала традыцыяй, што прадстаўнікі камунікацыі ГДР сустракаюцца з польскімі чыгуначнікамі, уручаюць ім памятныя значкі.

У гэтым годзе вялікі гонар сустрэў працаўніка гандлёвай службы чаромхаўскай станцыі Пятра Дубковіча. Яму была ўручана ганаровая грамата і залаты значок „Заслужаны чыгуначнік ГДР“. Яго імя ўпісана ў ганаровую кніжку заслужаных чыгуначнікаў ГДР. Апрача таго, наш сябра атрымаў рэчавую ўзнагароду.

Віншуем сябру Дубковіча з узнагародай і жадаем яшчэ лепшых поспехаў у працы.

**(ус)**

Вялікага княства Літоўскага літоўскай клайпедскай зямлі? Агульна прынята лічыць, што не хапіла на гэта сілы. Але калі, карыстаючыся з нязгоды ў Вялікім княстве Літоўскім, інфлянцкія крыжакі захапілі Полацк, вялікія князі не пагадзіліся з такім станам і адабралі яго (князь Віцень). За землі паўднёвай Русі яны вялі цяжкія змаганні з татарамі. Бадай, таму Леан Васілеўскі пісаў: „Ostatecznie Litwa gromadzi pod swem panowaniem całą Ruś zachodnią i południową, przekształcając się w państwo ruskie”. Далей жа пра беларускія землі: „Litwa broniła Białej Rusi od Tatarów, następnie przyczyniła się do zbliżenia się i skupienia ziem białoruskich w jedną całość, wreszcie nie przeszkodziła Białej Rusi w jej samodzielnym rozwoju kulturalnym, przeciwnie, sama uległa ruskiemu wpływowi cywilizacyjnemu” („Kresy Wschodnie”, 1917, стар. 89). Гаворачы пра XV ст., вядомы польскі мовавед і гісторык A. Brückner піша, што ў Вялікім княстве Літоўскім Język urzędowy towarzyski nawet rodzinny (oprócz Żmudzi) był w XV wieku wyłącznie białoruski” (Dzieje Kultury Polskiej, t. I, стар. 641). Успомнены Васілеўскі, пішучы пра XVI і XVII ст., падае: „Drukowany w 1588 r. pierwszy „Statut Litewski” (w języku urzędowym białoruskim) zastrzega wyraźnie w rozdziale IV-ym, aby wszystkie akta urzędowe i sądowe były pisane w tym języku. W szkołach nawet na Żmudzi wykładano język ruski nie litewski (op. cit. стар. 89). Чытаючы такія сцверджанні вышэй успомненых вучоных і шэрагу іншых, насоўваецца пытанне, як на самай справе было з тым „заваяваннем“ і хто каго заваяваў?

...М. Косман тэрыторыю Беларусі таго часу дзеліць на Белую Русь і Чорную Русь. Пішучы аб назве Белая Русь, прыводзіць меркаванне з „Słownika Geograficznego” (1880 г.) Ф. Сулімерскага, паводле якога гэтая назва паходзіць ад белых світак, якія насілі жыхары Белай Русі. Аднак, такія ж світкі насілі і на азначанай М. Косманам Чорнай Русі. Відаць, тут трэба згадзіцца з выясненнямі большасці гісторыкаў, што словам „белы“ азначалася незалежнасць, у даным выпадку ад татараў, бо ўся іншая Русь плаціла ім даніну (Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. III, стар. 274). Назва Чорная Русь, паводле М. Космана, у даўняй шляхецкай Рэчыпаспалітай адносілася да зямель Навагрудчыны і Гродзеншчыны, уводзіць у заблытанасць. Зазгляньма ў крыніцы тых часоў. Марцін Кромер у працы „Polska czyli o położeniu ludności...”, вышаўшай першы раз у 1578 г., успамінае толькі пра Белую Русь. Старавольскі ў працы „Polska albo opisanie położenia Królestwa Polskiego...“, выдадзенай у 1632 г., піша: „Ta Ruś, która do Wielkiego Księstwa Litewskiego przylega i należy do niego powszechnie nazywana jest Rusią Białą (...) Dzieli się zaś owa znakomita kraina na sześć województw, czyli prowincji, z których najludniejsza jest nowogródzka, podzielona na dwie ziemie: nowogródzką i słonimską”. Далей аб Русі піша: „Dzieli się zaś na Ruś Białą, która wchodzi do Wielkiego Księstwa Litewskiego oraz Ruś Czerwoną, która właściwie zowie się Roksolanią i do Polski należy. Trzecia bowiem poza Donem i źródłami Dniepru położona przez starożytnych nazywana Rusią Czarną, od współczesnych pospolicie nazwę Moskwy otrzymuje”. Словам, ці назву Чорная Русь для зямель Навагрудчыны і Гродзеншчыны некаторыя гісторыкі XIX ст. правільна прымянілі — справа не зусім ясная.

...Варта яшчэ затрымацца на школьніцтве ў Вялікім княстве Літоўскім пасля Люблінскай уніі, гэта значыць у XVI і XVII ст. ст. У тым часе, можна сказаць, манаполь на школьніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім належаў да каталіцкіх манахаў-езуітаў. Яны арганізавалі цэлую сетку сярэдніх школаў і вышэйшую ў Вільні. У школах сваіх, на што не звярнуў увагі М. Косман, не навучалі яны краёвай мовы — беларускай. Да езуіцкіх школаў прыпадобніліся нешматлікія пратэстанцкія, уніяцкія, а нават праваслаўныя. І так у XVII ст. паўстала сітуацыя, што ў пісаных прававых і дзяржаўных актах на старабеларускай мове, складзеных згодна з дзяржаўным законам, выпускнікі гэтых школаў не толькі не патрапілі разбірацца, але нават падпісваць іх пабеларуску і падпісвалі па-польску. Гэта была адна з галоўных прычын, што краёвая мова беларуская ў прававым і дзяржаўным жыцці была заменена ў 1697 г. польскай мовай. Ненавучанне ў школах краёвай мовы прычынілася не толькі да глыбокага занепаду беларускай пісьменнасці, але бадай нават да ўпадку Вялікага княства Літоўскага. Паны-шляхта, прыняўшы польскую мову, трацілі і пачуццё нацыянальнай аддзельнасці, станавіліся польскімі панамі-шляхтай. Панска-шляхецкае Вялікае княства Літоўскае пачало перажываць агонію свайго існавання і згасла ў наступным, XVIII стагоддзі.

Вялікім недахопам працы М. Космана з'яўляецца адсутнасць картаў. Няма ніводнай карты Княства Полацкага, няма карты Вялікага княства Літоўскага пасля уніі 1569 г. Таксама шкада, што ў кнізе няма пераліку друкарскіх памылак. Напрыклад, на стар. 39 чытаем: „W dobie rozbicia dzielnicowego Rusi, do którego doszło w 1504 r. po śmierci Jarosława Mądrego” — правільна павінна быць 1054 г. і інш.

Агульна кажучы, гісторыя Беларусі як такая ў працы М. Космана прадстаўлена не зусім выразна, можна сказаць — не зусім вылучана з гісторыі іншых краін. У першым перыядзе яна расплываецца ў агульнай гісторыі Русі, а ў пазнейшых ужыванне назваў „рускі“, „літоўскі“, у некаторых выпадках у сённяшнім значэнні, могуць даваць чытачам памылковыя ўяўленні. Замала паказаны дасягненні ў мінулым беларускай культуры.

Аднак, трэба ўзяць пад увагу, што праца М. Космана — гэта першая „Гісторыя Беларусі“ на польскай мове. Яна ўсё ж у вялікай меры знаёміць чытача з мінулым Беларусі і варта, каб з ёю пазнаёміліся таксама беларусы.

**В. Ярмалковіч**



 




Дарагое Сэрцайка, у мінулым годзе пазнаёмілася я з Андрэем. Я яшчэ вучуся ў школе, мне 17 год, а Андрэю 25 і ён працуе. Андрэй прыходзіў да мяне вельмі часта. Праседжвалі мы да позняга вечара. Толькі прыдзе з працы, ужо і ў мяне. Я і ўрокаў не мела калі рабіць, таму і ацэнкі мае пагоршыліся. І на ўроках я ўсё пра Андрэя думала. Закончыўся школьны год, я паехала дадому на вёску. Андрэй мяне і тут наведваў. Толькі ў канцы канікул ён не прыехаў. Я падумала, пэўна, штосьці не выйшла. І з нецярпеннем чакала школьнага года, каб ізноў быць у адным горадзе з Андрэем. Але заўважыла, што нешта псуецца. Спаткала Андрэя на вуліцы. Мы пагаварылі. Але ўжо гэта не было тое, што калісь. Гаворка ў нас не клеілася. Запрасіла Андрэя, каб прыйшоў, але не прыйшоў ён ужо да мяне. Я вельмі сумую па ім. Выходжу часта вечарамі на вуліцу, прайдуся, усё спадзяюся яго спаткаць. І аднойчы ўбачыла, ішоў насупраць. Але, відаць, заўважыў мяне і павярнуў назад. Я заплакала і пайшла дамоў. На мяне ўжо даўно ўглядаецца і суседскі хлопец. А цяпер, відаць, заўважыў, што Андрэй не прыходзіць да мяне, і пачаў зачапляць мяне, нават дадому прыходзіць. То кніжку пазычыць, то чагосьці спытаць. Гэта нябрыдкі хлопец. Гаспадыня мая яго вельмі хваліць, яна ведае яго ад маленства. Але мне ў сэрцы толькі Андрэй. Я ўсё яшчэ яго выглядаю. Сэрцайка, як ты думаеш, вернецца ён да мяне? Ці хадзіць мне з Пятром, гэтым суседскім хлопцам?

Крыся з Бельшчыны

**Крыся!** Дарма, мусіць, чакаеш ты Андрэя. Па ўсім відаць, што перастала ты яму падабацца. І на гэта няма рады. Астаўў сум і пустку ў тваім сэрцы. Але з часам і ты яго будзеш забываць, будзе астываць каханне. І ў гэтым можа дапамагчы табе сяброўства з Пятром. А мо яно і ў каханне пяройдзе...

**Сэрцайка**




Астроне! Прачнулася я ноччу са страхам, што чакае мяне, мусіць, штосьці вельмі дрэннае, а мо і смерць, бо прысніўся мне вось такі сон. Я іду ў тунелі. Тунель не доўгі і відаць ужо святло ў канцы яго. Але насупраць мяне ідзе нейкая вялізная постаць. Вышэйшая і шырэйшая на ўвесь тунель. Апранутая ў чорную пелярыну, з расстаўленымі рукамі. Я спатыкаюся з ёю, і яна мяне ахоплівае рукамі і накрывае гэтай пелярынай, прытуліўшы да сябе. Але я зусім не баялася. І яшчэ памятаю, што пры тунелі стаяў нейкі дзіўны самаход (у сапраўднасці такіх самаходаў няма) і таксама чорнага колеру. Хачу пачуць, Астроне, тваю апінію наконт гэтага сну.

А раней крыху сніўся такі сон. Быццам бы мы ў доме цесцяў. Бачу цёшчу і цесця (яны ўжо не жывуць). Выбіраемся ісці на вяселле да сваячкі. Выйшлі з хаты і я ўспомніла, што забылі мы гвазд́зікі, якія асталіся ў хаце цесцяў. Не ведаю, што далей, бо ўжо цесць узяў мяне за руку і вядзе з сабой на той свет. Я там убачыла твары знаёмых жанчын, якія ўжо не жывуць. І прашу цесця, каб мяне адпусціў назад, бо ў мяне там дачка, яна яшчэ вучыцца. Так яго прашу, што аж расплакалася. І тут прачнулася.

Марыся

**Марыся!** Чакае цябе нейкая жалоба (па кімсьці). Тое, што тая постаць ахінула цябе чорнай пелярынай, на шчасце, не датычыць тваёй смерці. Датычыць гэта некага з сям'і тваіго цесця. Цябе чакае добрае здароўе і доўгія гады жыцця.

**Астрон**






## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У час рэгулявання ўласнасці сельскіх гаспадарак у 1974 годзе маці, сын і дачка атрымалі рашэнне адміністрацыйных улад, на аснове якога пасведчана, што яны з'яўлююцца супольнымі ўласнікамі гаспадаркі абшарам 9,5 га. У рашэнні не акрэслена, які ўдзел мае кожны з іх. Ці гэта абазначае, што іх удзелы роўныя? Гаспадарка была набыта ў час супольнага жыцця маці і яе мужа і незалежна ад спадчыны па мужу ёй прыпала палавіна гаспадаркі. Сын падаў у суд на падзел супольнай гаспадаркі. Ці суд акрэсліць удзел маці на 1/3 частку вартасці гаспадаркі, як у рашэнні адміністрацыйных улад, ці можа прызнаць ёй столькі, колькі ёй належала па закону?

АДКАЗ: Па закону маці прыпала палавіна ўдзелу ў супольнай уласнасці, а калі яе муж не пакінуў завяшчання, то яшчэ да гэтага 1/3 частка ўдзелу мужа. Калі б у рашэнні адміністрацыйных улад было пасведчана, што ўдзелы ў супольнай уласнасці яе і яе дзяцей роўныя, то яна магла толькі патрабаваць ад адміністрацыйных улад выпраўлення памылкі, а суд быў бы звязаны гэтым рашэннем. Калі ж адміністрацыйныя ўлады не пасведчылі, у якой частцы кожны з іх з'яўляецца супольным уласнікам, суд мае права акрэсліць гэтыя ўдзелы згодна з законам.

## Этнаграфічнае акенца



*Разьба ў дрэве на доме Іосіфа Асташэўскага ў вёсцы Тапаляны Беластоцкага павету. Дом быў пабудаваны каля 1923 г. Цесляр-разбяр паходзіў з вёскі Пухлы.*

*Фота М. Гайдука.*

## Куток практычных ведаў




### ЯК МЫЦЬ КАЛЯРОВУЮ БЯЛІЗНУ

Не заўсёды тканіна мае трывалую фарбу. Часта здараецца, што пры мыцці бялізны выскакваюць „неспадзеўкі". Купіш, напрыклад, новы світэр ці блузачку ў цудоўную радужную палосачку ці ў квяцісты ўзор, а памыеш першы раз — і вопратка губляе сваю прыгажосць, бо ўзнікаюць зацёкі, размазваецца ўзор тканіны. І тады бяда, бо тая рэч, якая кінулася нам у вочы ў магазіне і на якую мы, не задумоўваючыся, выдалі грошы, — стала бескарыснай, яе прыгажосць лопнула, як мыльны пузыр. І гэтай прыгажосці ўжо не вернеш!

Зафарбаваную белую тканіну ў нейкі каляровы ўзор удаецца часам выбеліць у вадзе, дадаючы „бялінкі" ці проста хлору, а нават перагідролу. Аднак не заўсёды гэта выходзіць добра, ды і ўзор змываецца. Таму вывад адзін; трэба мыць бялізну так, каб не дапускаць да зафарбоўвання.

Мыючы каляровую бялізну, неабходна прытрымлівацца некаторых правіл. Тканіны з нетрывалай афарбоўкай, як, напрыклад, фланеля ці крэтон, не мочым, а адразу мыем у далікатных сродках для мыцця бялізны, у цёплай вадзе, а памыўшы, адразу палошчам у летняй вадзе з воцатам. Тканіны, якія могуць зафарбаваць, трэба класці асобна, а яшчэ лепш адразу вешаць.

Каляровую бялізну і вопратку з натуральнага шоўку найлепш мыць у мыльных платках. Лёгка выкручваць, не церці, кожную рэч мыць у асобнай вадзе. Палошчачы, дадаць крыху воцату. Сушыць гэтыя тканіны найлепш, разлажыўшы на тоўстым ручніку.

Шарсцяныя тканіны таксама мыем у летняй вадзе і далікатных сродках для мыцця бялізны, палошчам з воцатам. Тканіны не выкручваць, а толькі лёгка выціснуць і асушыць.

Наогул калі хочаце мыць каляровую бялізну, не трэба класці ў ваду адразу некалькі рэчаў, калі вы не ўпэўнены, ці нейкая рэч не зафарбуе. Нельга выкарыстоўваць моцныя сродкі для мыцця бялізны, не мыць у гарачай вадзе, не мачыць, не класці побач, не вешаць рэчаў адна на другую.

**Гаспадыня**

## БУГ У АГНІ

У Слохах Аннапольскіх пасярэдзіне вёскі за скромнай агароджай стаіць амаль непрыкметны помнік: раскрытая, каменная кніжка, кніжка жыцця. Яе апошняя старонка апавяшчае свету:

**26 IV 1941 ГОДА ГІТЛЕРАЎСКІЯ ЗАХОПНІКІ НАПАЛІ НА ВЁСКУ, ПАДПАЛІЛІ ЯЕ І ЗАБІЛІ 58 ЖЫХАРОЎ З ВЁСАК СЛОХІ, КЛЕКАТОВА І ВУЛЬКА.**

**ВЕЧНАЯ ІМ ПАМЯЦЬ!**

Помнік устанавілі аднавяскоўцы, што засталіся ў жывых, сваякі і родзічы ў 20 гадавіну Польскай Народнай Рэспублікі.

Зараз за гэтым помнікам стаіць мураваны дом солтыса вёскі Слохі Аннапольскія — **Івана Семенюка.** У 1941 годзе быў ён 17-гадовым юнаком і яму пашчаслівілася астацца ў жывых, бо ў гэты час якраз пасвіў ён кароў і коней ва ўрочышчы „Зорачка", што над ракой Буг, далекавата ад вёскі.

Сёння сярод сваіх службовых дакументаў перахоўвае ён, быццам рэлíквію, спісак расстраляных аднавяскоўцаў. Чытаю:

**Ян Кічко, Ян Кірылюк, Рыгор Карпюк, Ніна Карпюк...**

— Гэтая Нінка Карпюк была мая сяброўка, — паясняе солтыс. — Ёй было тады 19 год.

А я чытаю далей:

**Шыман Гуменяк, Андрэй Чырында, Андрэй Карпюк, Мікалай Карпюк, Пётр Чырында, Павел Пызоўскі, Елізавета Пызоўская, Пётр Раманчук, Павел Бухавец, Мікалай Гуменяк, Пётр Гуменяк, Юльян Шышко, Канстанцін Палешчук, Аляксандр Голуб, Данель Голуб, Васіль Шарко, Уладзіслаў Гуменяк, Юліна Гуменяк, Андрэй Юрчук, Ян Васілюк, Пíліп Васілюк, Ігнат Семянюк, Аляксандр Пызоўскі, Уладзімір Пызоўскі, Ефрасіня Пызоўская...**

— Фроська Пызоўская, — спыніла мяне солтысава жонка, — мела тады ўжо 80 гадоў.

Чытаю далей:

**Язэп Карпюк, Ян Сідарчук, Ян Пракапюк, Марыя Пракапюк, Пётр Пракапюк, Агаф'я Раманчук, Аляксандра Раманчук, Соф'я Гаўрылюк, Соф'я Гаўрылюк...**




— Гэта маці з дачкой, — паясняе солтысіха, — абедзве Зосі. Маці было 60 год, а дачцы 23 гады.

Наступныя ў гэтым спіску — сын і маці: сямігадовы **Пётр Пракапюк** і яго маці **Марыя Пракапюк.** І далей:

**Соф'я Краўчук, Ян Петручук, Антаніна Петручук...**

— Зноў маці з сямігадовым сынам, — паясняе солтыс. — Гэты Янка Петручук найперш прасіў немца: *„Пане, не забівай мяне!"*, а затым пачаў уцякаць і тады дагнала яго гітлераўская куля.

— А яго малодшую сястру, — дадае солтысіха, — маці трымала на руках. Дзяўчынцы было два ці тры годзікі і яе разам з мамай...

А я чытаю:

**Даніла Петручук, Улляна Петручук...**

— Бабулька Улька, — цяжка ўздыхнуўшы, сказала солтысіха, быццам сама сабе, — мела тады 70 год...

А я чытаю:

**Уладзіслаў Чырында, Варвара Чырында, Максім Бартошук, Андрэй Барташук.**

Разам у гэтым спіску 47 чалавек. Не хапае яшчэ ў ім жыхароў Клекатова і Вулькі. Тады, у 1941 годзе, яны часова жылі ў Слохах, бо насельніцтва з гэтых і іншых вёсак перасялілі далей ад тадышняй прыгранічнай зоны.

У чым правініліся гэтыя людзі?

Ні ў чым. Проста тут, у Слохах, змаглі мы ўпершыню на ўласныя вочы ўбачыць сапраўдны воблік тых, што прыйшлі на нашу зямлю з мэтай устанаўлення новага, як яны гаварылі, высокакультурнага еўрапейскага ладу. Праз некалькі дзён нарыхтавалі яны падобную бойню для яўрэйскага насельніцтва ў Беластоку, а пасля спалілі ўсе вёскі Белавежскай пушчы. Затым прыйшла чарга на трагедыю вёскі Райск і дзесяткаў іншых вёсак на Беласточчыне.

Солтыс Іван Семянюк расказвае:

—На другі дзень пасля таго, як у нас рускі лейтэнант забіў нямецкага маёра і параніў яго шафёра, нашу вёску акружылі немцы і літаральна пачалі на нас наступаць. Ішлі ў чатыры лініі. Як у час франтавой атакі, хаця фронт адкаціўся далёка на ўсход, а тут над Бугам бараніліся толькі савецкія салдаты ў дотах.

Ішлі фашысты атакай на спакойную вёску, ішлі з аўтаматамі і кулямётамі, з гранатамі і вогнемётамі. Ішлі і стралялі ва ўсё жывое. Ішлі і палілі...

— Вунь бачыце гэтую дарогу праз сенажаць, — паказвае солтыс. — Тут труп на трупе ляжаў. Бо калі пачалася страляніна, многія людзі кінуліся ўцякаць, каб схавацца ў надбужных кустах. А немцы якраз ішлі ад Буга, ахапіўшы жывым ланцугом нашу вёску. І мой бацька таксама кінуўся туды. Бяжыць на загуменне, а яму насустрач ідзе Ёзік Карпюк і пытае, што ў вёсцы. Бацька крычыць яму: *„Ёзік, уцякай, бо немцы ўсіх забіваюць!"*

Сусед не паверыў. Хацелася яму паглядзець, як немцы будуць наступаць на рускіх, што аставаліся ў дотах. Апошняе, што ён убачыў, было тварам спацелага немца, які ў яго цэліўся. Семянюк, бацька солтыса, праскочыўшы ў наступны альшанік, на хвіліну спыніўся і тады пачуў, што над самай галавой прасвісцела аўтаматная чарга. Значыць, натрапіў на чацвертае і апошняе кальцо нямецкай атакі. З перапалоху накрыў рукамі галаву, як бы гэта давала якую-колеч ахову ад куль і, сагнуўшыся, быццам шалёны, скочыў у кусты. *„Усё роўна — канец!"* — думаў ён, бегучы невядома куды. — *Хай б'юць..."* Бег і чакаў сваёй кулі. Яна, аднак, неяк яго не трапляла. Сустрэў яшчэ аднаго суседа, вясковага трача, Паўла Бухаўца. І кажа яму, каб уцякаў разам, бо ў вёсцы ўсіх мардуюць. *„Не магу, — гаворыць сусед, — бо мушу забегчы дадому і схаваць недзе пілу да трачкі. Бачыш, усё кругом гарыць. Трэба ж будзе будавацца. А чым дошак і дылёў нарэжаш, калі піла ў агні ператопіцца...*



Так пачалося пекла ў Слохах. А як і чым яно закончылася — аб гэтым наступным разам.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара

Імпартгумар

## Спартыўныя дасягненні

З усіх бакоў толькі і чуеш аб карысці фізічных практыкаванняў. Ды і па вопыту нашай сям'і магу пацвердзіць, што заняткі фізкультурай бясследна не праходзяць. Вось, напрыклад, месяц таму назад мы аддалі зямлі цела дзядзечкі Ганса: інфаркт, выкліканы прабежкамі ў лесе. Дзядзечка так захапіўся бегам трушком, што, трэба меркаваць, і зараз носіцца дзе-небудзь на нябёсах.

Пляменніца Біанка нейк вырашыла, што хопіць ёй усё жыццё круціцца навокал яе запльўшага тлушчам шэфа, і ў адзін цудоўны дзень паспрабавала зрабіць у абедны перапынак стойку на руках каля свайго пішучай машынкі. Цяпер на пляменніцы паўнюсенька гіпсу, а яе калегі раяць дэманстраваць ножкі больш традыцыйным спосабам.

Мой дзядуля ўсё жыццё толькі і рабіў, што курыў і збіраў маркі. Пакуль не ўбачыў Луізу Ульрых, сваю любімую кінаактрысу, у тэлепраграме „Здароўе", дзе яна расказвала, як захаваць фігуру. Дзядуля ніколі не праяўляў схільнасці да скокаў, але ўсё ж, паслухаўшы парад Луізы Ульрых, набыў скакалку. Нічога страшнага з ім не здарылася, проста невялікае сутрасенне мазгу і крыху сплюшчаны нос.

Цётцы Элі модны лекар парэкамендаваў адціскацца ад падлогі. Практыкаванні гэтыя вельмі памаглі ёй вылечыцца ад яе хваробы суставаў, ну, а кіла ў наш час без цяжкасці вылечваецца хірургічным умяшаннем.

Наш сын займаўся на турніку. Пры пятым падцягванні хлопчык вывіхнуў руку. Вывіх управілі ўдачна, але невялікай трэшчыны ў суставе пазбегнуць не ўдалося.

Маю жонку сяброўка ўгаварыла заняцца скачкамі ў вышыню. Разгон — і бац! Разрыў звязкі — гэта не пералом нагі, а пераломам нагі — не разрыў звязкі. Жонка мая заўсёды вызначалася адсутнасцю пачуцця меры: яна атрымала і тое і гэтае.

Што датычыцца мяне, то я вырашыў пачаць трэніравацца сваё слабое цела толькі з наступнага года, таму я пакуль здаровы.

**Бернхард Кач (ФРГ)**

„Багатая" натура: думак у галаве многа, а сказаць няма чаго.

# НІЎКА

— *Просім прабачэння за тэхнічныя замінкі.*

### НА ЭКЗАМЕНЕ

Аўтаінспектар пытае задрыпанца, які прыйшоў здаваць экзамен на правы вадзіцеля:

— Ваш аўтамабіль праз тэхнічныя няспраўнасці спыніўся на чыгуначным пераездзе. Што вы будзеце рабіць?

— Сігналіць...

— Як? — пытае аўтаінспектар.

— А так, жаласна-жаласна...

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Агент па здачы кватэр у наём, стаміўшыся таргавацца з небагатым кліентам, узняў вочы да неба, і твар яго раптам прасвятліўся.

— Прабачце, гер Шульц, але я толькі што ўбачыў, што адзінае жыллё, якое я мог прапанаваць вам за тую цану, на якой вы настойваеце, ужо занята. Толькі што ў яго засялілася пара ластавак.

✲

Маленькі П'ер гаворыць маленькай Жане:

— Давай гуляць у вайну.

— А як гэта рабіць?

— Вельмі проста. Я буду генералам, ты будзеш машыністкай, і я буду дыктаваць табе свае мемуары.

✲

— Учора ты сказаў, што правёў вечар у Вільсана. Я толькі што сустрэла яго жонку. Аказваецца, вы з ёй былі ўчора ў кабарэ „Тракадэра". Навошта ты мне схлусіў?

— Дарагая, калі я прыйшоў дамоў, я проста быў не ў стане вымавіць „Тракадэра".

### ТАКСАМА ФІЛАСОФІЯ

Парфен да Кастуся:

— Вып'ем яшчэ па сто?

— Розум кажа: не трэба, страўнік кажа: можна. Але ж розум мудрэйшы ад страўніка. А мудрэйшы заўсёды ўступае дурнейшаму. Вып'ем!

### ЗЯЦЁК

Тры кілімы дарагія,
Апранахі неблагія...
У яго дабра навалам,
У яго дабра на век,
Ажаніўся ён удала
І жыве „як чалавек".
Цешчы — клопат,
Каб зяцёк
Не адрокся
Ды не ўцёк.
Для яго будуе дачу.
А зяцёк?
Зяцёк лайдачыць,
Прахіндзей і шаляніца
Сем разоў гатоў жаніцца.

**Рыгор Яўсееў**

### РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

#### ТЫ МНЕ ВЯСНОЮ ПРЫСНІЛАСЯ

Con anima

**Словы М. Шушкевіча** | **Музыка Ю. Семянякі**

Летняя ночка купальная
Ясны растаяла знічкаю.
Падаюць зоры світальныя
У чыстыя воды крынічныя
Ой ты, дзяўчыначка мілая,
Як жа ты свет упрыгожыла,
Ластаўка ты легкакрылая,
Светлы мой сон растрывожыла.

Ты мне вясною прыснілася
Неразгаданымі чарамі,
Сэрца парыўна забілася
Вольнымі крыламі-марамі.
Пэўна, цябе ненаглядная,
Стрэў я часінай удалаю.
Ты мая доля спагадная,
І не шкадую ні мала я.

### ГУМАР З БАРАДОЮ

#### ПЕС НЕ САБАКА

У аднаго пана быў надта дрэнны і сярдзіты аканом. Усе яго баяліся, як агню, толькі адзін мужык яго не баяўся і агрызаўся зуб за зуб. Аканома ўзяла злосць. Вось ён ідзе да пана і жаліцца, што мужык яго не слухае ды яшчэ „псом лаецца". Клікнулі мужыка. Пан і пытае: „Ці праўда, што ты аканома называеш — пес?" Мужык адвярнуўся да аканома і кажа са злосцю: „Сабака ты, сабака, калі ж я на цябе казаў пес?"

*Без слоў.*

Made in Zadrypanka

#### БАБУЛІНЫ ЎНУКІ

Ідзе бабуля з двума ўнукамі. Большага нясе на плячах, а меншага цягне за руку.

— А чаму ж гэта вы, бабуля, большага ўнука нясеце, а меншага за руку цягнеце? — пытае задрыпанец.

— А то на плячах даччын, а гэты — нявестчын, хай прабяжыцца, нічога з ім не здарыцца...

#### З „Веснікa Задрыпоніі"

#### АБ'ЯВА

Просім паведаміць адрас смельчака, які выцягнуў з нашай кватэры ў час пажару піяніна і іншыя каштоўныя рэчы.

#### ПЫТАННЕ ГАПКІ

Хто дапамог першаму чалавеку выйсці ў людзі?

## Курʼёзы

### РЫЗЫКА

Вальтэр Гофер — швейцарскі ўладальнік рэстарана з барамі, што размешчаны ў маляўнічым Фрайфельдзе. Гофер некалі быў простым селянінам і нават батрачыў. Але яму пашанцавала выгадна ажаніцца. І ён набыў харчэўню. Але багатыя наведвальнікі аддавалі перавагу фешэнебельным рэстаранам. Тады Гофер прыдумаў зрабіць свой шынок больш прыцягальным за кошт зверанят, якіх купляў у вандроўных цыркаў. Наведвальнікам харчэўні дазвалялася кратаць прыручаных звяркоў, прагульваць іх. Даходы павялічыліся, але іх не хапала на ўтрыманне падрастаючых звяроў. Ад дрэннага мяса звер толькі круціць носам і пагарджальна раве. Так Гофер дайшоў да думкі, што звяры павінны карміць самі сябе і стаў спалучаць абавязкі гаспадара рэстарана і дрэсіроўшчыка. Гэта зрабіла яго гаспадарку яшчэ больш папулярнай: яшчэ ніхто не спалучыў „пітейнае завядзенне" з цыркам.

Прадпрыемства расквітнела і даходы растуць. але жонка гаспадара Элізабет не рада гэтаму. Яна ў роспачы скардзіцца знаёмым:

— Вось ужо на працягу 20 год я паміраю ад страху, калі Вальтэр з хлыстом заходзіць у клетку тыграў... Чуе маё сэрца: калі-небудзь яны яго разарвуць.

Сапраўды, ёсць чаго баяцца. Калі кожны бізнесмен спадзяецца, што імення яму пашанцуе перамагчы іншых, то ў Гофера няма такога выбару. Ён не можа перагрызці глотку тыгру, а тыгр яму можа.

Між намі

**На крутыя вяршыні забаронена хадзіць у адзіночку.**